*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 16(401)** **21 КРАСАВІКА 1999 г.**



**Старшыня Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны**

## Алег Трусаў

## VI з'езд ТБМ

17 красавіка 1999 года ў Менску, у Доме літаратара прайшоў VI з'езд Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны.

На з'ездзе прысутнічала 192 дэлегаты, якія прадстаўлялі 2700 сяброў ТБМ, прайшоўшых перарэгістрацыю. Ад Берасцейскай вобласці прысутнічала 7 дэлегатаў, ад Віцебскай - 29, ад Гарадзенскай - 25, ад Гомельскай - 7, ад Магілёўскай - 8, ад Менскай - 10, ад Менска - 64, ад кіраўнічых структур ТБМ (Рада, Сакратарыят, Рэвізійная камісія, газета) - 39, ад замежжа - 3 ( Расея - 2, Латвія - 1).

На з'ездзе прысутнічалі шматлікія госці, у тым ліку і прадстаўнікі ўлады: намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Рэспблікі Беларусь Іван Пашкевіч, міністр адукацыі Васіль Стражаў, старшыня Дзяржкамдруку Міхась Падгайны, намеснікі міністра культуры і старшыні Белтэлерадыёкампаніі і інш. Прывітальны ліст з'езду даслаў з-за кратаў кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір.

З'езд заслухаў і абмеркаваў:

Уступнае слова старшыні ТБМ Генадзя Бураўкіна;

Даклад першага намесніка старшыні ТБМ Алега Трусава "Два гады дзейнасці, стан спраў, праблемы, перспектывы";

Даклад старшыні Рэвізійнай камісіі Уладзіміра Кішкурны.

З'езд задаволіў просьбу Генадзя Бураўкіна аб адстаўцы і абраў старшынёй ТБМ Алега Трусава, дацэнта Беларускага універсітэта культуры, кандыдата гістарычных навук.

З'езд абраў Рэспубліканскую Раду ТБМ у складзе 47 чалавек і Рэвізійную камісію ў складзе 5 чалавек. Падрабязны склад іх будзе надрукаваны.

З'езд абраў першым намеснікам старшыні ТБМ Міколу Лавіцкага, старшыню Заводскай рады ТБМ г. Менска і намеснікам старшыні ТБМ Людмілу Дзіцэвіч.

З'езд зацвердзіў Станіслава Судніка галоўным рэдактарам газеты "Наша слова".

З'езд прыняў шэраг дакументаў, якія будуць надрукаваны, а таксама тэксты прывітальных тэлеграм Васілю Быкаву і Міхаілу Чыгіру.

---

17 красавіка адбылося першае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ. Рада абрала Сакратарыят (спіс будзе надрукаваны). Рада абрала Леакадзію Мілаш (Вільня) і Уладзіміра Содаля (Менск) сябрамі рэдкалегіі газеты "Наша слова". Наступнае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ --14 траўня ў 14.00 у сядзібе ТБМ па адрасу: г. Менск, вул. Румянцава, 13.

# СЛОВА ПРЫ АДКРЫЦЦІ VI З'ЕЗДА ТБМ

Паважаныя дэлегаты з'езда!

Шаноўныя госці!

Дарагія сябры!

Два гады, якія прайшлі пасля нашага пятага з'езда, былі вельмі цяжкімі, можа быць-самымі цяжкімі ў дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Калі казаць шчыра, арганізацыя была на мяжы маруднага, бяссільнага канання.

Успомнім, якая спадчына дасталася сённяшняму кіраўніцтву ТБМ. У сядзібе Таварыства былі адключаны тэлефон і электраэнергія. Не выходзіла газета "Наша слова". За даўгі перад каммунальнымі службамі нам пастаянна пагражалі самымі жорсткімі адміністрацыйнымі санкцыямі. Даводзілася не столькі думаць пра нейкія навуковыя канферэнцыі ці кантакты з замежнымі калегамі, колькі тэрмінова, сутаргава шукаць ахвяраванні, бо родная дзяржава, што так шчодра плоціць заезджым безгалосым удзельнікам розных правінцыйных фестываляў і ў рэкордныя тэрміны ўзводзіць шыкоўныя лядовыя палацы, так і не здолела знайсці ў сваіх шырокіх кішэнях хаця б сімвалічную суму на падтрымку грамадскай арганізацыі, якая турбуецца за лёс гаротнай дзяржаўнай мовы...

Закончылася ўсё суровым рашэннем Менскага гаспадарчага суда і паспешлівым, ганебным высяленнем, а дакладней сказаць, выгнаннем ТБМ з памяшкання па вуліцы Румянцава, 13. Ворагі беларушчыны, відаць, радасна ўсміхаліся і пераможна пацíралі свае валасатыя заграбушчыя рукі. Але Таварыства выстаяла, і аднавіла выхад "Нашага слова", і вярнулася ў сваю ўтульную "хату", і праводзіць свой чарговы з'езд у дакладнай адпаведнасці са Статутатт, у прасторным і прэстыжным Доме літаратара. І зрабілі ўсё гэта не нейкія чужыя і багатыя дзядзькі, а нашы суайчыннікі, прыхільнікі і рупліўцы пявучай матчынай мовы, дзякуючы салідарнасці і сабраным ахвяраванням якіх мы вылезлі, выкараскаліся з ліпучай "даўгавой ямы" і дамагліся паразумення ў Партызанскім райвыканкаме, Менгарвыканкаме і, нават у Адміністрацыі Прэзідэнта. Наша самае вялікае дасягненне, самая галоўная ўдача за два гады, што ўсё ж мы ёсць, мы працуем, мы будзем жыць!

Аднак спадзявацца на лёгкія, беспраблемныя дні не выпадае. На жаль, тэндэнцыя да выціскання з дзяржаўнага і грамадскага жыцця беларускай мовы не слабее. Нарадзілася яна не сёння, ды асаблівай моцы набрала якраз у апошнія гады. Прывяду некалькі афіцыйных лічбаў. У 1953/54 навучальным годзе па-беларуску ў школах навучалася 82,6% дзяцеў, у 1986/87 навучальным годзе-23%, а ў 1988/89 навучальным годзе-20,7% . У гэтым навучальным годзе колькасць беларускамоўных школ зменшылася на 24, двюхмоўных- на 133 (а гэта значыць - зніклі беларускамоўныя класы), а колькасць расейскамоўных школ павялічылася на 117. Я не хачу рабіць каментарыяў. Я проста праілюстраваў небяспечную, відавочную тэндэнцыю, якая ну ніяк не стасуецца з аптымістычнымі рэляцыямі і дэмагагічнымі абяцаннямі высокіх дзяржаўных чыноўнікаў.

У апошні час найбольш нахабныя і нецярплівыя "вялікадзяржаўныя дзяржыморды" (гэта азначэнне не маё, а Леніна) перайшлі ўжо ў адкрыты наступ на беларускую мову, так бы мовіць, пайшлі ў "апошні і рашаючы бой". Я нагадаю вам сумнавядомы загад дырэктара Наваполацкай цеплаэлектрацэнтралі ад 16 красавіка 1997 года і загад дырэктара Дзяржынскага эксперыментальна-механічнага завода ад 24 чэрвеня 1997 года аб пераводзе ўсёй службовай і тэхнічнай дакументтацыі толькі на расейскую мову. Не магу не нагадаць і зусім незразумелую, абразлівую для ўсёй сваёй гісторыі пастанову Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук ад 28 мая 1998 года аб адмене заліку па беларускай мове для аспірантаў і спаборнікаў... Самае дзіўнае і жахлівае ва ўсіх гэтых выпадках-дэманстратыўнае маўчанне вышэйшых асоб Рэспублікі Беларусь. Зневажаецца, абражаецца (ужо не словам, а дзеяннем) дзяржаўная мова краіны, пасамадурску парушаецца закон, а яны не даюць ніякай ацэнкі, у іх, такіх красамоўных і запальчывых прамовах, як і ў іншых, куды менш сур'ёзных, сітуацыях, нічога не зварухнулася ў халоднай душы? Значыць, так абыходзіцца з Канстытуцыяй, з мовай карэннай нацыі можна, нармальна?.. Я быў бы вельмі рады, каб мне прадстаўнікі ўладаў запярэчылі і назвалі, як цяпер модна казаць, адэкватную рэакцыю кіруючых чыноўнікаў на прыведзеныя факты...

Нашы шаноўныя "вертыкальшчыкі" ў дыскусіях па праблемах адносін да беларускай мовы ў нашай дзяржаве вельмі любяць глыбакадумна спасылацца на рэферэндум і дэмакратычнае права людзей на выбар мовы для сябе і сваіх дзяцей. Не буду рабіць выгляду, што ўсё тут проста і ясна. Працытую чалавека, якому можна верыць, якому беларусы вераць многія дзесяцігоддзі.

Вялікі Якуб Колас, які і ведаў, і любіў свой народ, аднойчы па-сялянску проста сказаў; "Калі самыя высокія чыноўнікі загавораць па-беларуску, то і народ будзе гаварыць на сваёй мове". І не трэба нейкіх спецыяльных дэкрэтаў, і не трэба нейкай адмысловай агітацыі. А калі беларускага слова практычна няма ў парламенце, ва ўрадзе, у вуснах Прэзідэнта, у лекцыях выкладчыкаў вышэйшых навучальных установ, у судах і крамах, дык чаго ж вы чакаеце ад так званага "абывателя"? Уключыце дома тэлевізар - у Менску ўжо ажно сем праграм па-расейску і ніводнай цалкам беларускай. Пастаўце на відэа-магнітафон касету - па-беларуску няма ніводнага запісу. Дык дзе ж тое славутае супердэмакратычнае права выбару? З чаго ж выбіраць? .. Я думаю, у чалавека сапраўды ёсць права выбіраць, якою мовай яму карыстацца, але ж у дзяржавы ёсць, павінны быць абавязак навучыць кожнага свайго грамадзяніна дзяржаўнай мове, гісторыі і культуры сваёй краіны.

Урэшце, трэба выконваць законы.

У артыкуле 4 падпісанай Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь 13 ліпеня 1998 года новай рэдакцыі Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" запісана літаральна наступнае: "Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў, мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў павінны валодаць беларускай і расейскай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў". Чаму ж тады па-беларуску так і не гаворыць віцэ-прэм'ер, які саманадзейна ўзяўся кіраваць нацыянальнай адукацыяй, навукай, культурай? Чаму на нашы лісты ў Менскі гарвыканкам, напісаныя па-беларуску, віцэ-мэр, вядомы камуніст і трубадур усемагчымай дружбы народаў Віктар Чыкін адказвае па-расейску? Чаму, напрыклад, Міністэрства статыстыкі і аналізу з Таварыствам беларускай мовы вядзе дыялог і ў пісьмовай і ў вуснай форме выключна на "вялікай і магутнай"? І чаму відавочныя парушэнні закона праходзяць беспакарана? ..

О, колькі гэтых горкіх, роспачных "чаму", звязаных з нашаю роднай моваю, можна задаць нашай самазадаволенай уладзе! На жаль, як і тая Русь-тройка ў Гогаля, улада наша не дае адказу...

Дык што ж нам у гэтых рэальных умовах рабіць?

Працаваць! Свядома, настойліва і штодзённа. У межах законаў.

У супрацоўніцтве з усімі беларускімі сіламі, якія не звяліся на нашай зямельцы і не выракліся святыняў, а мова--найпершая і найгалоўнейшая святыня ва ўсе часы і ва ўсіх народаў.

Я хацеў бы верыць, што крызіс, які скаваў быў Таварыства беларускай мовы (і арганізацыйна, і псіхалагічна), мінае ці ўжо нават мінуў. Нам трэба закончыць нарэшце структурнае афармленне суполак, агледзець, згуртаваць і дысцыплінаваць нашы шэрагі. Нам трэба зноў адчуць сябе баяздольнай грамаддскай сілаю, сваім досведам, розумам і годнасцю прымусіць лічыцца з нашымі думкамі і прапановамі самыя высокія дзяржаўныя органы. Для гэтага трэба сканцэнтравацца на канкрэтнай практычнай дзейнасці. Абароненая ад закрыцця беларуская школа, створаны новы беларускамоўны дзіцячы садок, адкрыты нарэшце Нацыянальны ўніверсітэт, па-сапраўжнаму ацэнены і ўганараваны выдатны беларускі талент-гэта сёння, па маім шчырым перакананні, важней, чым яшчэ адна грозная рэзалюцыя ці яшчэ адна палкая прамова ў гонар бессмяротнасці матчынага слова. Ні ў якім разе нельга ўступаць сваіх прынцыпаў і пазіцый, але і не варта па драбязе лезці ў канфрантацыю. Як бы гэта камусяму ні хацелася прызнаваць, але гітарычна немінучая мітынговая пара адыходзіць, надыходзіць час чарнавой, карпатлівай, канкрэтнай справы - і для нашай арганізацыі таксама. У гэтым я бачу будучыню ТБМ , заруку нашых поспехаў, умову сцверджання самабытнасці і самастойнасці роднай Бацькаўшчыны. Вельмі спадзяюся, што шосты з'езд ТБМ стане важным і ўпэўненым крокам на гэтым шляху.

Паўторым разам з нашым вечна маладым і мудрым Максімам Багдановічам: "Не пакінем свае гаворкі, сваіх песень, сваіх звычаяў - свайго кроўнага, спрадвечнага, беларускага. Не адрачомся, не забудзем, не кінем на глум: будзем шанаваць, бараніць...

Абвяшчаю шосты з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны адкрытым.

*Генадзь Бураўкін.*



№ 16(401) 21 КРАСАВІКА 1999 г. Наша слова

# Два гады дзейнасці: стан спраў, праблемы, перспектывы

**Даклад Алега Трусава VI з'езду ТБМ імя Францішка Скарыны, прачытаны 17 красавіка 1999 года**

Прайшло роўна два гады пасля апошняга з'езда нашай арганізацыі. Яны прыпалі на гады эканамічнага крызісу, палітычнай дыктатуры, заняпаду беларускай адукацыі, культуры і гісторыі. У гэты час да ўлады ў галіне адукацыі і культуры прыйшлі людзі, якія, у асноўным, альбо варожа, альбо абыякава ставіліся да ўсяго беларускага. Якраз на пачатку 1997 года яны распачалі рашучы наступ на ўсе беларускія структуры і ў тым ліку на ТБМ. На момант правядзення апошняга з'езда былі адменены ўсе ільготы, нададзеныя ТБМ папярэднімі ўладамі, а фінансавае становішча нашай арганізацыі стала проста жахлівым.

Папярэдняе кіраўніцтва было вымушана падпісаць кабальную дамову з мясцовымі ўладамі Менска аб арэндзе памяшкання для сядзібы ТБМ на пяць год на ўмовах арэнднай платы 10$ за кв.м.. асноўнай плошчы. Такім чынам, у месяц трэба было плаціць за святло, арэнду і камунальныя паслугі болей чым 800$. Таму на момант з'езда запазычанасць Таварыства дзяржаве за арэнду сядзібы склала 142 млн. тагачасных рублёў (болей 6000$), усе рахункі арганізацыі стаялі на "картатэцы", штатныя супрацоўнікі Сакратарыята паўгода не атрымлівалі заробку, за даўгі былі адключаны тэлефоны, а ўсе гандлёвыя шапікі ТБМ былі закрытыя і кожны месяц прыносілі страты. Такім чынам новаму кіраўніцтву ТБМ дасталася незайздросная спадчына.

У першы год сваёй дзейнасці мы накіравалі некалькі лістоў кіраўніцтву Менгарвыканкама з просьбай аб прадстаўленні ільгот за аплату сядзібы, але ўсе адказы на іх былі адмоўнымі. З дапамогай беларускай і замежнай грамадскасці, на працягу 1997 года была сабрана сума ў 150 млн. рублёў і старыя даўгі ТБМ былі сплочаны. Карыстаючыся выпадкам, хачу выказаць шчырую падзяку сп. Вітаўту Кіпелю, які арганізаваў сярод беларусаў ЗША збор ахвяраванняў на вышэй азначаныя патрэбы. Летам і восенню 1997 года быў адрамантаваны і пачаў сваю дзейнасць шапік ТБМ каля Нацыянальнага Мастацкага музея, сталі працаваць тэлефоны і сядзіба ТБМ стала выконваць сваю функцыю ў поўнай меры.

Аднак за восень і зіму 1997 г. зноў назбіраліся даўгі за арэндную плату, чым адразу скарысталіся ўлады горада. У траўні 1998 года Гаспадарчы суд Менскай вобласці скасаваў дамову аб арэндзе памяшкання і прысудзіў нам выплаціць суму запазычанасці, якая з рознымі штрафамі склала 540 млн. тагачасных рублёў. У чэрвені 1998 года судовыя выканаўцы арыштавалі маёмасць ТБМ і прымусова вывезлі яе з сядзібы на свае склады, а памяшканне апячаталі. Кульмінацыйнай сцэнай гэтай антыбеларускай трагікамедыі стаў вываз на двух трактарных прычэпах беларускіх кніжак, некалі выдадзеных ТБМ. Гэта адбывалася на вачах айчынных і замежных журналістаў, шматлікіх сяброў і прыхільнікаў ТБМ, што прыйшлі бараніць сядзібу.- Дарэчы, частку нашай маёмасці суд Партызанскага раёна г. Менска потым прадаў і пры гэтым парушыў дзеючае заканадаўства. Аднак мы не здаліся. Неаднаразовыя выступленні ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, пікеты і мітынгі, асабісты зварот нашага кіраўніка да беларускага прэзідэнта прывялі да ўзнаўлення перамоў з уладамі Менска і Партызанскага раёна аб вяртанні нам нашай сядзібы.

Адначасова летам 1998 года Рада ТБМ унесла адпаведныя змены ў Статут Таварыства, мы адмовіліся ад камерцыйнай дзейнасці і прадалі свой апошні шапік, утрымліваць які стала немагчыма.

У жніўні 1998 г. новы варыянт Статута зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі. З дапамогай сябра Рады ТБМ сп. Зм. Санько новы Статут ТБМ быў выдадзены асобнай брашурай накладам 500 асобнікаў.

У лістападзе мы вярнуліся назад на вуліцу Румянцава з умовай выплаціць да першага студзеня 1999г. доўг у 270 млн. рублёў. Пасля пагашэння доўгу у лютым 1999 года была заключана новая дамова на ільготных умовах ( па кошту 1$ за кв.м) за арэнду нашай сядзібы і 11 лютага мы атрымалі новы ордэр (тэрмінам на 3 гады) на карыстанне нашым офісам па вуліцы Румянцава, 13.

Пасля выплаты доўгу наш рахунак з лютага 1999г разблакаваны і зараз мы маем на ім каля 30 млн.руб. Нам застаецца толькі выказаць шчырую ўдзячнасць сотням беларускіх і замежных грамадзян, а таксама некаторым айчынным прыватным фірмам, якія ўсе гэтыя гады падтрымліваюць нас фінансава ў няроўным змаганні з антыбеларускімі сіламі на нашай Бацькаўшчыне.

У мінулым годзе Рада ТБМ вызначыла памер абавязковых штогадовых складак для сяброў ТБМ. На момант з'езда складкі за 1998 год здалі большасць першасных суполак Таварыства.

Зараз патрэбна арганізоўваць збор штогадовых складак за 1999 год. Фінансавы крызіс, штучна створаны беларускімі ўладамі, фактычна прыпыніў і выдавецкую дзейнасць ТБМ. У 1996 – 1997 г. спынілі сваю дзейнасць рэгіянальныя выданні ТБМ, што выходзілі ў некаторых гарадах і раёнах Беларусі (Магілёве, Маладзечне, Салігорску, Паставах і інш.).

У канцы 1996 года Савет Міністраў адмовіў у дзяржаўным фінансаванні і рэспубліканскаму органу ТБМ – газеце "Наша слова". Першыя месяцы 1997 года "Наша слова" выходзіла на грошы падпісчыкаў, а потым прыпыніла свой выхад, бо рэдакцыя ( а там працавала 13 чалавек) не змагла працаваць на грамадскіх пачатках. У лютым 1997 года наклад газеты зменшыўся да 2300 асобнікаў, а купіць газету ў розніцу можна было толькі ў Менску і гарадах Менскай вобласці.

Аднак справу па выратаванні сваёй газеты ўзялі ў свае рукі сябры Таварыства з горада Ліды. Па іх просьбе восенню 1997 года Рада ТБМ пераявла рэдакцыю газеты ў Ліду і прызначыла выконваючым абавязкі галоўнага рэдактара "Нашага слова" аднаго са сваіх сяброў Станіслава Судніка.

Неўзабаве, у канцы кастрычніка, у Лідзе выйшаў першы нумар ( на 4 палосах) нашай газеты на грамадскіх пачатках. І вось ужо другі год яна рэгулярна выходзіць у свет, дзякуючы нястомнай працы Судніка і яго сяброў у Лідзе і Менску. Зараз наклад павялічыўся да 4300 асобнікаў і сёння мы маем каля 2800 падпісчыкаў, што вельмі нядрэнны паказчык для недзяржаўнай дэмакратычнай беларускай прэсы. Зараз падпіскай ахоплены ўсе раёны Беларусі без выключэння. Варта адзначыць, што нягледзячы на розныя цяжкасці газета набывае паступова свой твар і мае пастаянных аўтараў не толькі з Беларусі, але і з Летувы, Канады, Расеі і Украіны. У канцы 1998 – пачатку 1999 года зноў адрадзілася рэгіянальная прэса ТБМ. Стала выходзіць газета "Сумежжа" ў Паставах, з'явіліся такія выданні як, "Голас Беларуса" у Менску і "Матчын дар" у Клімавічах. Нядаўна выйшаў 400 нумар "Нашага слова", які раздадзены ўсім дэлегатам з'езда.

Актыўна супрацоўнічаюць актывісты ТБМ з дзяржаўнай і недзяржаўнай прэсай. Праблемы становішча з беларускай адукацыяй, развіццём нашай культуры і мовы падрабязна асвятляюцца на старонках "Звязды", "Народнай волі", "Пагоні", "ЛіМа", "Чырвонай змены". З іншых сродкаў масавай інфармацыі варта адзначыць важную ролю беларускай рэдакцыі "Голаса Свабоды", якая ўвесь час распавядае пра жыццё і дзейнасць ТБМ.

У 1998 г. разам з іншымі дэмакратычнымі сіламі ТБМ падтрымала рэдакцыю газеты "Наша Ніва" у змаганні з уладамі за права выходзіць на класічным правапісе. Сябры ТБМ ладзілі пікеты ў падтрымку гэтай газеты, сябры Рады ТБМ доктар філалагічных навук Генадзь Цыхун быў [illegible] афіцыйных экспертаў на справе, якую газета здолела выйграць. Нядаўна "старонка ТБМ" з'явілася і ў віртуальнай прасторы Інтэрнета. У бліжэйшы час яна будзе перакладзена на англійскую, расейскую і іншыя замежныя мовы.

На працягу апошніх двух гадоў сябры ТБМ прынялі ўдзел у розных міжнародных канферэнцыях і кангрэсах, якія адбываліся як на Беларусі так і за яе межамі (Польшча, Малдова, Венгрыя, Ірландыя). Сусветная супольнасць атрымала падрабязную інфармацыю аб сённяшнім стане беларускай мовы і адукацыі на Беларусі. У абарону беларускай мовы выступілі праваабарончыя арганізацыі БХК і "Вясна-96", грамадзянская ініцыятыва "Хартыя-97", II Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі.

Шмат канферэнцый за гэтыя гады правялі рэгіянальныя структуры Брэста, Менска і Магілёва. У Бярэсце і Магілёве былі выдадзеныя і матэрыялы гэтых канферэнцый. Толькі Берасцейская абласная структура ТБМ за апошнія два гады выдала 8 зборнікаў, прысвечаных праблемам культуры беларускага памежжа.

За апошнія два гады мы перайшлі да рашучых дзеянняў і ў літаральным сэнсе "выйшлі на вуліцы і плошчы". У Менску адбылося некалькі дзесяткаў пікетаў у розных частках горада, а таксама два мітынгі на плошчы Якуба Коласа з патрабаваннямі спыніць закрыццё беларускіх школ і класаў, пакінуць у спакоі Беларускі гуманітарны ліцэй, спыніць русіфікатарскую палітыку ў сферы вышэйшай адукацыі, адкрыць на Беларусі Беларускі нацыянальны універсітэт з выкладаннем усіх прадметаў па-беларуску. Прайшлі адпаведныя пікеты ў Пінску, Горадні, Лідзе і іншых гарадах.

Актывісты ТБМ сабралі каля 8 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі з патрабаваннем адкрыць у Менску Нацыянальны універсітэт. У лютым 1999 года Генадзь Бураўкін перадаў Міністру адукацыі Беларусі Васілю Стражаву першыя 7 тысяч подпісаў і афіцыйна паставіў перад урадам пытанне аб адкрыцці ВНУ.

З траўня па кастрычнік 1997 г. разам з іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі ТБМ ладзіла паэтычныя чытанні ў скверы каля помніка Янкі Купалы, а потым у памяшканні музея гэтага вялікага беларускага паэта.

На працягу 1998 і першага квартала 1999 г.г. актывісты ТБМ, шэраг беларускіх пісьменнікаў – сяброў ТБМ – выступілі перад вучнямі і студэнтамі ўсіх абласных і некаторых раённых гарадоў Беларусі. Надоўга запомняцца паэтычныя сустрэчы з удзелам Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Арлова, Лявона Баршчэўскага, Міхася Скоблы, Славаміра Адамовіча і іншых руплііўцаў беларускага слова.

У траўні 1998 года Сакратарыят ТБМ адправіў лісты да ўсіх галоўных архітэктараў раёнаў г.Менска з просьбаю узгадняць рэкламныя, інфармацыйныя подпісы і шыльды, якія напісаны па-беларуску.

Актыўны ўдзел прыняла наша арганізацыя ў апошнім перапісу насельніцтва Беларусі. Спачатку ў падпісныя лісты было вернута пытанне аб роднай мове насельніцтва Беларусі, потым Міністэрства статыстыкі мусіла надрукаваць 20% падпісных лістоў па-беларуску. З 16 па 23 лютага ТБМ актыўна кантралявала становішча з перапісам насельніцтва і зафіксавала больш 120 парушэнняў пры яго правядзенні. Мы канчаткова пераканаліся, што перапіс мае палітычны, антыбеларускі падтэкст, нягледзячы на ўяўную нейтральнасць.

27 чэрвеня 1998 года Рэспубліканская Рада ТБМ прыняла заяву з нагоды падпісання прэзідэнтам закона аб унясенні зменаў у Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", дзе была адзначана яго антыбеларуская накіраванасць. Таксама быў накіраваны рашучы пратэст Прэзідэнту Нацыянальнай Акадэміі навук А.П.Вайтовічу супраць скасавання вывучэння ў аспірантуры НАН беларускай мовы.

У тым жа годзе пад уціскам ТБМ Міністэрства адукацыі было вымушана пакінуць у ВНУ Беларусі абавязковае вывучэнне беларускай мовы, аднак колькасць гадзін пры гэтым была зменшана з 90 да 60 гадзін.

Увесь час сябры ТБМ вялі запісы ў так званую "Шэрую кнігу" фактаў аб парушэнні правоў грамадзян Беларусі на карыстанне ў поўным аб'ёме беларускай мовай. У гэтым годзе мы надрукуем зборнік артыкулаў і канкрэтных дакументаў, якія сведчаць аб дыскрымінацыі беларускай мовы на Беларусі ў перыяд з 1995 па 1999 год. Гэтыя матэрыялы будуць перададзены ў прадстаўніцтва ААН і ўсе замежныя пасольствы на тэрыторыі Беларусі.

Трэба спыніцца і на ўнутранай структуры ТБМ. За апошнія гады шмат якія раённыя і рэгіянальныя структуры ТБМ, асабліва ў навучальных установах і розных прадпрыемствах, створаныя ў перыяд беларускага адраджэння пачатку 90-х г.г. спынілі сваё існаванне. Асабліва крытычная сітуацыя з-за інэртных паводзін былога кіраўніцтва Менскай гарадской Рады ТБМ, склалася ў Менску. Праверка паказала, што нават у самых актыўных раёнах горада (Заводскім, Ленінскім і Кастрычніцкім) маецца не больш чым 70-80 сяброў ТБМ, якія стаяць на ўліку, маюць сяброўскія білеты і уплочваюць штогадовыя складкі. Астатнія людзі ў лепшым выпадку толькі нашыя прыхільнікі і не болей. Таму праведзеная намі перарэгістрацыя ўсіх першасных структур паказала рэальную сітуацыю.

Аднак у апошнія месяцы сітуацыя ў Менску стала выпраўляцца. Аднавілі дзейнасць структуры ТБМ у вядучых ВНУ і каледжах, прычым ініцыятыва ідзе знізу. Асабліва варта адзначыць, арганізацыю ТБМ Менскага педагагічнага каледжа № 1 (172 сябры) і Раду ТБМ гістфака БДУ (60 сяброў).

Зараз на Беларусі маецца прыкладна 2 500 сяброў ТБМ у поўнай адпаведнасці з нашым Статутам, і каля 10 тысяч прыхільнікаў, якія нас падтрымліваюць матэрыяльна і маральна. Наша мэта – у наступныя два гады значна павялічыць іх колькасць.

Нягледзячы на абвешчаную перарэгістрацыю суполак, гэты працэс пакуль ідзе вяла. Да гэтага часу Сакратарыят не ведае пра тое, ці дзейсныя суполкі ў некаторых мясцовасцях. Не наладжана, з гэтай прычыны, надзейная сувязь з суполкамі. Структура ТБМ яшчэ выглядае даволі рыхла. Таму адной з важнейшых задач ТБМ павінна быць прадстаўленне справаздачнасці аб колькасці сяброў, дзейнасці, тэлефоны, факсы, адрасы. Абласныя і раённыя Рады ТБМ павінны дакладна ўяўляць колькі і дзе ёсць суполак ТБМ, мець з імі надзейную і рэгулярную сувязь. Іншымі словамі, ТБМ павінна перабудавацца ў арганізацыю з добра адладжанай структурай. Гэта прымушае зрабіць і аб'яўленая ўладамі чарговая перарэгістрацыя ўсіх грамадскіх арганізацый.

Суполкі ТБМ варта арганізаваць з актыўных бацькоў, чые дзеці займаюцца ў беларускамоўных класах, садках, бацькоўскія камітэты, якія арганізоўвалі б супольнае беларускае жыццё сваіх дзяцей, кантактавалі з органамі ўлады па пытаннях беларускага школьніцтва, абаранялі правы сваіх дзяцей на навучанне на беларускай мове. Спосабы арганізацыі такіх камітэтаў могуць быць рознымі: наведванне бацькоўскіх сходаў у школах, шляхам абвестак у друку, з дапамогай улётак, з дапамогай палітычных партый і грамадскіх арганізацый. У свае суполкі могуць гуртавацца і беларускамоўныя студэнты тэхнікумаў і ВНУ, тым больш, што такія прыклады ўжо ёсць.

Суполкі ТБМ не павінны чакаць нейкіх загадаў ці цыркуляраў з боку цэнтральнага кіраўніцтва, а самі выяўляць актыўнасць і ініцыятыву ў працы. Яны павінны жыць, а не існаваць намінальна. Пра свае ініцыятывы, пра сваю працу трэба даваць інфармацыю ў газету "Наша слова". Добрым прыкладам ініцыятывы можа быць акцыя гомельскай маладзёвай суполкі "Гарт", якая накіроўвала лісты вытворцам прадукцыі, дзе напісана, што выкарыстанне толькі расейскай мовы ў афармленні тавараў падтрымлівае русіфікатарскую палітыку ў Беларусі. Варта і іншым суполкам ТБМ падтрымаць гэтую ініцыятыву. Наогул варта пастаянна турбаваць мясцовыя ўлады па моўных пытаннях ці то ў галіне афармлення магазінаў і вонкавага выгляду гарадоў, ці то ў галіне школьніцтва, ці то ў галіне сродкаў масавай інфармацыі і г.д.

Галоўнай задачай ТБМ на будучыню з'яўляецца адраджэнне беларускай мовы ў дзяржаўным, грамадскім і духоўным жыцці народа Беларусі, а таксама:

барацьба супраць ўціску з боку ўлад на беларускую мову;

садзейнічанне зберажэнню і развіццю нацыянальнай культуры і народных традыцый, гістарычнай памяці, фармаванню нацыянальнай і гістарычнай свядомасці;

аказанне неабходнай падтрымкі ў сферы нацыянальна-культурнага развіцця беларусам, якія жывуць за межамі Беларусі;

змаганне за адраджэнне на Беларусі нацыянальнай асветы, дашкольных устаноў і школ усіх тыпаў, ВНУ з выкладаннем усіх дысцыплін на беларускай мове;

забяспечэнне ўмоў для бесперапыннай адукацыі на беларускай мове;

пашырэнне культурных сувязяў беларусаў з народамі свету дзеля прапаганды беларускай і засваення здабыткаў сусветнай культуры;

дапамога усім грамадзянам Беларусі небеларускага паходжання ў авалоданні беларускай мовай, набыцці трывалых ведаў у галіне беларускай гісторыі і культуры;

павялічэнне накладу газеты "Наша слова" за кошт падпісчыкаў і рознічнага продажу;

Актыўны выхад у Інтэрнет, стварэнне уласных сайтаў і WEB-старонак.

Мы спадзяемся, што новае кіраўніцтва ТБМ улічыць тыя недахопы, якія былі адзначаны ў гэтым дакладзе і наша арганізацыя сустрэне XXI стагоддзе разам з усёй беларускай супольнасцю ў незалежнай, дэмакратычнай Беларусі.

Менск, 17.IУ.1999г.

# Слова да беларускага народа

## Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта "Беларусь — 2000 гадоў"

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 12-15)*

Не было шчаслівым жыццё нашага народа і ў савецкай частцы Беларусі, што знаходзілася ў складзе Савецкага Саюза. Надзея на лепшае жыццё існавала хіба толькі ў 20-я гады, што ўвайшлі ў гісторыю, як перыяд беларусізацыі. У гэтае дзесяцігоддзе было зроблена нямала для далейшага развіцця нацыянальнай культуры. Беларускім адраджэнцам 20-х гадоў удалося дабіцца дзяржаўнасці беларускай мовы, стварэння нацыянальнай школы, нацыянальнага універсітэта, беларускіх выдавецтваў, газет і часопісаў, тэатраў, музеяў, архіваў. Утварыўся Інстытут Беларускай Культуры, а на яго базе Беларуская акадэмія навук. У канцы 20-х гадоў у беларускіх школах навучалася да 88% дзяцей.

Аднак зусім іншыя працэсы адбываліся ў эканамічным жыцці Беларусі. Менавіта ў гэты час закладаліся асновы савецкай эканамічнай сістэмы, галоўнай сутнасцю якой станавілася цэнтралізаванае дзяржаўнае кіраўніцтва. Калектывізацыя разбурыла беларускую вёску, як аснову эканамічнага патэнцыялу краіны, знішчыла рэшткі таварнагрошовых адносінаў, фактычна аднавіла феадальныя парадкі ў ганебнай дзяржаўна-прыгонніцкай форме. Індустрыялізацыя па-савецку не ўлічвала інтарэсаў рэспублікі і яе насельніцтва.

Таталітарны савецкі рэжым праводзіў палітыку поўнай унітарызацыі, пераўтварэння нацыянальных рэспублік у безаблічныя адміністрацыйныя адзінкі новай савецкай імперыі. Канстытуцыя СССР 1936 г. знішчыла рэшткі суверэнітэту Беларускай ССР. Распачатыя ў 30-х гадах палітычныя рэпрэсіі спынілі далейшае развіццё нацыянальнай справы ў Беларусі. Ахвярамі рэпрэсій сталі прыкладна адзін млн. чалавек, сярод іх дзяржаўныя і гаспадарчыя дзеячы, таленавітая беларуская інтэлігенцыя. Найбольш гаспадарлівае сялянства вынішчылі ў працэсе прымусовай калектывізацыі. У 1937 – 1938 г.г. было загублена болей 80 беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Толькі ў адзін дзень, 29 кастрычніка 1937 г., расстралялі дзевяць беларускіх літаратараў, сярод іх Платон Галавач, Міхась Чарот, Міхась Зарэцкі. Праз дзесяцігоддзі іх, як і многіх іншых, рэабілітавалі, але беларуская справа была падсечана. Цяпер нашых бязвінных пакутнікаў мы шануем на Дзяды ў Курапатах і па цэлай Беларусі, але вярнуць нацыі яе страты немагчыма.

Пазбаўленыя сваіх лепшых сыноў апынулася Беларусь перад новай страшэннай пагрозай – нашэсцем нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Спачатку 1 верасня 1939 г, калі першыя ўдары вайны прыняла на сябе разам з Польшчаю і Заходняя Беларусь, а потым – у чэрвені 1941г.

У другую сусветную вайну Беларусь зведала лёс закладніцы паміж дзьвюма варожымі таталітарнымі сістэмамі – сталінскай бальшавіцкай і гітлераўскай фашысцкай. Менавіта на нашай зямлі адбывалася змаганне двух рэжымаў за новы перадзел свету. Кінуты на фізічнае вынішчэнне народ Беларусі ўзняўся на абарону сваёй зямлі, самога сябе і сваёй будучыні. Абышлося нам гэта невераготна дорага, як нікому ў свеце. У апошняй вайне зноў загінуў кожны трэці жыхар Беларусі, знішчана болей паловы нацыянальнага багацця, край ператварыўся ў выгарышча. Было разбурана 209 гарадоў і мястэчак, спалена 9200 вёсак, з іх 628 – з жыхарамі. Пра жудасную трагедыю часоў вайны напамінаюць сумныя званы Хатыні, Трасцянец і іншыя месцы масавага знішчэння людзей падчас нямецка-фашысцкай акупацыі.

Як адна з краінаў, што зрабілі вялізарны ўклад у разгром нямецкага фашызму, Беларусь у 1945 г. стала адной з заснавальніцаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Перамога над нямецкім фашызмам дасталася нам страшэннай цаною, але не прынесла жаданай волі нашаму народу. Пасля вайны працягвала на ўсю моцу працаваць жудасная машына палітычных рэпрэсіяў, асабліва ў Заходняй Беларусі, дзе прымусова ствараліся калгасы, знішчалася ўсё беларускае. Частка заходніх беларусаў, дакладней, насельніцтва Беластоцкага краю, у выніку перадзелу межаў ізноў трапіла ў склад суседняй Польшчы.

Працавіты, адказны, самаахвярны беларускі народ у вельмі кароткі час пасля вайны адбудаваў разбураную краіну. Узняўся з руінаў Менск, ажылі Бярэсце, Магілёў, Віцебск, Гомель, паўсталі нанова многія спаленыя вёскі. Жыццё прадаўжалася. Беларусь паступова станавілася эканамічна развітым рэгіёнам СССР. Тут пабудавалі заводы-гіганты машынабудаўніцтва, радыё-прамысловасці, па вытворчасці бытавой тэхнікі, угнаенняў. Прадпрыемствы высокіх тэхналогій працавалі на патрэбы вайсковага коплексу і касмічных праграм СССР. Але ўсё гэта будавалася без уліку інтарэсаў эканомікі самой рэспублікі. Стваралася не індустрыя самастойнай краіны, а своеасаблівы зборачны цэх Савецкага Саюза. Аб'ём вырабленай прадукцыі быў арыентаваны на спажыванне на абшарах СССР і за яго межамі. Нездаровы перакос развіцця эканомікі і яго цяжкія наступствы для Беларусі абазначыліся пасля распаду СССР у 1991 г., калі гіганты індустрыі страцілі рынкі збыту і ператварыліся ў цяжкае ярмо на шыі нашага народа. Індустрыяльны патэнцыял краіны аказаўся не надта здольным да самастойнага існавання. Беларусь – яскравы ўзор каланіяльнай палітыкі метраполіі ў адносінах да забраных тэрыторый. Відаць гэта і на экалагічных наступствах для Беларусі індустрыялізацыі па-савецку. Непапраўныя страты нанеслі экалагічныя бедствы ў раёне Салігорскіх шахтаў, забруджаная атмасфера вакол гігантаў нафтахіміі, Гарадзенскага "Азота", Магілёўскага лаўсанавага завода і г.д.. Цераз Беларусь працягнуты лініі нафта – і газаправодаў, амаль бясплатна для нашай краіны гоняць у Еўропу на продаж расейскія прыродныя багацці. Беларусам з гэтага няшмат карысці, але затое нам пастаянна давodзіцца змагацца са шматлікімі аварыямі, што здараюцца ў сувязі з небяспечным тэхнічным станам састарэлага абсталявання.

Не меней стратаў панесла Беларусь у галіне сельскай гаспадаркі. На працавіты, бездакзны беларускі народ Масквою быў навешаны яшчэ адзін цяжкі абавязак – карміць цэнтральныя рэгіёны СССР. Былі пабудаваны гіганцкія жывёлагадоўчыя комплексы, птушкафабрыкі. Цягнікамі на Усход адпраўлялі мясапрадукты, а нам заставаліся "ножкі ды рожкі", ды цэлыя азёры атрутнай жыжы ад такіх комплексаў, што знішчалі ўрадлівыя землі, забруджвалі наваколле. Злачынная палітыка татальнай меліярацыі на беларускім Палессі прывяла да незваротных экалагічных зменаў ва ўсёй краіне і да страты ўрадлівых земляў.

Заканамерным вынікам безадказнай палітыкі, заключным яе злавесным акордам, стала найвялікшая ў гісторыі чалавецтва ядзерная катастрофа на Чарнобыльскай АЭС 26.04.86 года ў суседняй Украіне. Яна прынесла Беларусі незлічаныя страты. 70% радыяцыйных ападкаў асела на нашу краіну, забруджанымі аказаліся 23% тэрыторыі, на якіх пражывала 20% насельніцтва (2,1 млн.чалавек).

Так, на жаль, найвялікшыя бедствы дасталіся гаротнай Беларусі, калі ўспомніць яшчэ і тыя самыя разбуральныя за ўсю гісторыю чалавецтва дзве сусветныя вайны, якія спусташальным валам пракаціліся па нашай зямлі. Даводзіцца толькі здзіўляцца неўміручасці духу нашага народа.

Афіцыйная палітыка савецкай дзяржавы, скіраваная на зліццё нацый у адзіны савецкі народ прывяла да заняпаду культурных набыткаў беларусаў. Паступова ліквідаваліся беларускія школы, выцяснялася з ужытку беларуская мова, паўсюдна запанавала расейская. Беларусь несла значныя страты ў людскіх рэсурсах. Беларуская моладзь цэлымі цягнікамі вывозілася на асваенне цалінных земляў Казахстана, на лесанарыхтоўкі ў Карэлію і Комі, на будаўніцтва гідраэлектрастанцый, Байкала-Амурскай чыгуначнай магістралі, на сібірскія нафтаперапрацоўкі, выпускнікі беларускіх ВНУ накіроўваліся на працу далёка ад Радзімы. У краіну прыязджалі на пастаяннае жыхарства адстаўныя афіцэры з Расеі, многія з якіх сёння выступаюць супраць замацавання дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Забраная ў войска беларуская моладзь гінула ў Венгрыі, Егіпце, Афганістане, у ваенных канфліктах за чужыя інтарэсы ў Сярэдняй Азіі, на Каўказе, па ўсім свеце, куды сягалі інтарэсы савецкай імперыі.

Дэмакратычныя працэсы канца 80-х гадоў аднавілі надзеі беларусаў на самастойнае жыццё. Пачало набіраць сілы новае беларускае Адраджэнне. Створаныя грамадскія структуры ўзялі на сябе арганізацыю нацыянальнага дэмакратычнага руху. Сярод іх найбольш уплывовая – Беларускі народны фронт, лідэрам якога стаў Зянон Пазьняк, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада на чале з Міхасём Ткачовым.

27 ліпеня 1990 г. ва ўмовах крызісу савецкай сістэмы і ў выніку змагання за незалежнасць была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. 25 жніўня 1991 г. пасля распаду СССР Дэкларацыі быў нададзены статус канстытуцыйнага закона.

19 верасня 1991 г. на сесіі Вярхоўнага Савета была зацверджана новая назва нашай самастойнай краіны – Рэспубліка Беларусь і адноўлена наша старадаўняя сімволіка. У 1994 г. была прынята Канстытуцыя нашай новай дзяржавы. Першым старшынёй Вярхоўнага Савета – асноўнага заканадаўчага органа краіны, у 1991 г. быў абраны Станіслаў Шушкевіч.

У ліпені 1993 г. у Менску адбыўся першы ў гісторыі нашага народа Сусветны з'езд беларусаў, арганізаваны Згуртаваннем "Бацькаўшчына". На Радзіму з'ехаліся беларусы з розных краінаў свету.

У тыя гады было зроблена шмат, каб дзяржаўная самастойнасць і вольнае жыццё сталі рэальнасцю для шматпакутнага беларускага народа. Пачалі складвацца ўсе неабходныя дзяржаўныя інстытуты самастойнай краіны.

Аднак шлях да свабоды і годнага чалавечага жыцця аказаўся больш складаным, чым тады бачылася. Пакуль ён не пройдзены намі. Навязаныя народу рэферэндумы ў 1995г., 1996г. кардынальна змянілі кірунак развіцця краіны. Інтэграцыйная палітыка сённяшніх уладаў Беларусі, скіраваная на аб'яднанне з іншымі краінамі, непазбежна прывядзе да фактычнай страты нашай дзяржаўнасці і занядбання жыццёвых інтарэсаў народа Беларусі.

У такой сітуацыі нашаму народу неабходна абаперціся на свой драматычны гістарычны досвед, глыбока ўсвядоміць, што ўласная дзяржаўнасць – наша найвялікшае дасягненне і самая высокая каштоўнасць.

На зямлі жыве мноства нацыянальнасцяў і толькі каля двухсот маюць свае дзяржавы. Сярод іх на карце свету пэўнае месца займае Рэспубліка Беларусь і яе трэба берагчы кожнаму з нас. Уласная дзяржаўнасць забяспечвае найбольш спрыяльныя ўмовы для захавання і развіцця любой нацыі, таму ва ўсіх краінах і ва ўсе часы народы змагаліся за незалежнасць. Нашы продкі лічылі гэта найвышэйшым сваім абавязкам.

Беларуская дзяржаўнасць аплачана мільёнамі жыццяў нашых папярэднікаў. Зямля Беларусі абмыта крывёю лепшых яе сыноў, пралітай ў змаганні за волю, шчодра палітая потам тых, хто стварыў матэрыяльныя і культурныя багацці, што ў нас сёння ёсць.

Справа гонару і святы абавязак кожнага, хто жыве ў нашай краіне, мацаваць дзяржаўную незалежнасць нашай Бацькаўшчыны, не страціць яе, каб ізноў не апынуцца ў няволі, ад якой досыць напакутаваўся беларускі народ. Трэба жыць уласным розумам, быць гаспадарамі свайго лёсу!

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

Рэдакцыйная калегія: Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 19. 04. 99 г.
Наклад 4300 асобнікаў. Замова № 998.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
Кошт у розніцу: 7 000 руб.